

*Леанід Якубовіч*

# *Я з вамі, вёсны...*

ВЕРШЫ

*Мінск*
*«Мастацкая літаратура»*
*1979*

# Імклівая мелодыя крыл

Пасля яго засталася новая — пад старой бярозай — хата, пабудаваная і яго рукамі.

Застаўся малады сад, пасаджаны ім пад вокнамі гэтай хаты.

Засталася зусім адна яго матуля.

Засталіся сябры, якіх любіў ён і якія любілі яго.

Засталіся сабраныя ім кнігі.

Засталіся напісаныя ім вершы.

А сярод чарнавікоў, паэтычных варыянтаў і занатовак — чысцюткі тонкі сшытак у лінейку. Новенькі, некрануты...

Балюча гаварыць пра чалавека ў мінулым часе.

Тым пакутней, што гэты чалавек — Леанід Якубовіч — быў маім блізкім другам.

Захаваліся здымкі яго — высокага хударлявага юнака з летуценна-засяроджаным позіркам.

Зберагліся лісты яго нешматлікія — жыў Лёня вельмі напружана і турботна. «А, магчыма, гэта ўсё таму, што ўсё і ўся прымаю я надзвычай хваравіта. Трэба было б больш светла, сонечна...»

Леаніда Якубовіча не стала ясным летнім ранкам яшчэ ў 1970 годзе. Ён працаваў на Салігорскім камбінаце — побач з роднай вёскай Радкава. У той дзень — 8 чэрвеня — Лёня выйшаў на працу раніцай: першая змена пачыналася а шостай гадзіне. Калі спускаўся з клеццю ў шахту — здарылася бяда. На паверхню ён не вярнуўся. Яму ледзь споўнілася 22...

Гэты зборнік — спадчына. Ведаючы, які патрабавальны быў Лёня ў сваёй творчасці, было вырашана сабраць тут толькі найбольш адметныя, выспеленыя вершы. І размясціць пераважна ў такой паслядоўнасці, у якой яны ствараліся. Не ўсё, магчыма, зроблена так, як меркаваў, як хацеў бы сам аўтар, але ж яго, хто зрабіў бы гэта найлепшым чынам, няма...

І ўсё ж ён з намі — Леанід Якубовіч,— трошкі наіўны, часцей удумліва-засяроджаны, шчыры і сціплы, усмешлівы і сур'ёзны. Вы ўзялі ў рукі гэту кніжку, разгарнулі яе — і ён зрабіў крок да вас.

Жывучы ў бясконцых клопатах, якіх вымагае вясковы побыт, дбаючы не толькі пра ўласную будучыню, а і пра тое, каб ужо цяпер трошкі лягчэй жылося старой спрацаванай маці, хлопец навучыўся адольваць неспрыяльныя абставіны, навучыўся мужнасці, не здрадзіўшы арганічна ўласцівай яго душы пяшчоце. «Можа, яно і лепш так, заставацца сам-насам з усім. Тады неяк лепш цэніш і разумееш усё светлае».

Сярод яго вершаў няма ніводнага верша-скаргі...

Кідаюцца ў вочы ўлюбёныя паэтычныя вобразы Л. Якубовіча: сонца, раніца, сцежка, птушка, вясна («прыйдзе яна, і чалавек адчуе ўсю сваю светласць»).

Ён да самазабыцця любіў родную Беларусь, любіў жыццё, умеў радавацца добрым натхнёным праявам яго і сам, як лозунг, нёс сонца ў вачах (кажу адным з яго паэтычных выслоўяў).

Цікава, што пасля дзесяцігодкі Лёня працаваў паштавіком. Потым, адчуваючы патрэбу як мага хутчэй авалодаць сталымі літаратурнымі навыкамі, удасканаліць тэхніку творчасці і спадзеючыся навучыцца гэтаму ў журналісцкай дзейнасці, ён уладкаваўся ў рэдакцыю газеты «Шахцёр». Але неўзабаве не вытрываў, пайшоў на шахту. Л. Якубовіч не проста летуценіў пра дабро і шчасце людзей, ён прагнуў поўнай мерай сваіх магчымасцей памна-

жаць іх набыткі,— і ў такім жыццёвым вопыце ўзбагачаць вопыт літаратурны.

Мабыць, няцяжка заўважыць, як няўтомна і шматабяцальна пачынала сталець пяро маладога паэта. Пакрысе знікаюць з радкоў залішне прыгожыя словы, сузіральнасць і дыдактызм. З кожным новым вершам усё напружаней і паэтычна дакладней афармляецца думка. «Жыта заўсёды жнуць, калі яно добра выспее, калі зярняты, здаецца, звоняць пад жнівеньскім ветрыкам. Так павінна быць і ў пісьменнікаў: брыся за пяро толькі тады, калі адчуваеш, што ўжо ўсё выспела ў душы для новага твора — так і звоніць добрымі вобразамі, добрымі думкамі». Усё вастрэй узнімаюцца праблемы, якія хвалююць нашага сучасніка,— перачытайце вершы «Нараджаемся не для смерці», «Кастусю Каліноўскаму», «Пошук», «Кроў, кажуць, не дыміцца», «Не ад нявер'я, не!..», «Жыццё — нібы цягнік...». Усё ўдумлівей пошук сэнсу жыцця, усё глыбей адчуванне ўласнай адказнасці перад Радзімай, перад гісторыяй, перад будучыняй. «А паэзія — гэта тая ж рака, у якой уся свежасць, уся чысціня яе — у глыбіні». Л. Якубовіч спасцігаў гэта і — прагнуў настаўніка, прагнуў вучобы. І як жа быў удзячны ўсім, хто асвятляў яму дарогу сваёй уважлівасцю, зацікаўленасцю ў яго паэтычным лёсе!

«Як мала я пішу! Аж страшна... І ўсё гэта нявыкрутка з часам». Рабіць усё, што трэба, каб не пуставала матчына поле, будаваць новую хату, бо ў старой жыць не было ўжо як, працаваць і вучыцца завочна ў Белдзяржуніверсітэце... У яго хапала сіл, хапала вытрымкі. А вершы пачынаюць дыхаць яшчэ большай напорыстасцю, баявітасцю, бескампраміснасцю да ўсяго нізкага, пачварнага, што засціць нам сонца. Ягонае сонца — Чалавека. Сонца даверу, людскасці, душэўнага хараства...

Сярод яго шматлікіх паэтычных варыянтаў — пісалася Лёні нялёгка — застаўся чысты спытак у

лінейку... Горка думаць пра тое, што б магло быць і збыцца чаму ўжо не суджана...

...Аднойчы пачуў ён
Імклівую мелодыю крыл,
Светлыя гукі сонечных промняў,
Велічныя акорды лесу,—
Аднойчы спасціг чалавек музыку...

*Ніна Мацяш*

*О Беларусь! Старонка дарагая,*
*Мне без цябе—як дрэву без вады...*



## *Вяртанне*

Пад сто дажджоў грыбных папасці
І нейкай раніцай туманнай
Прыйсці к табе і піць прычасце —
Ваду крыніц тваіх крыштальных.

А потым з промнем самым першым
Ісці і слухаць кожнай клеткай,
Як прарастаюць з сэрца вершы —
Майго зямнога шчасця сведкі.

* * *

Нараджаемся не для смерці,
Нараджаемся мы, каб жыць,
Ды страла нацэлена ў сэрца,
Праз вякі ўжо страла ляціць.

Чорны продак не быў прарокам
(Лук ды стрэлы — залог жыцця),
Ён не думаў, што так глыбока
Гэты свет зялёны працяў.

Быў суседства закон трывожны,
Быў давер, як напяты лук.
Рух адчайны вопыт памножыў
На свядомасць мільёнаў рук.

Шлях стралы дарогі намеціў,
Кроў, як вехі вякоў, гарыць...
Нараджаемся ж не для смерці,
Нараджаемся мы, каб жыць.

* * *

Мой кожны дзень — у роздуме глыбокім,
І кожны дзень мне дорыць адкрыццё.
Жадаю ўбачыць свой паверх высокім
У звонкім доме з назваю: Жыццё.
І не лаўлю шчаслівыя імгненні,
У кожным кроку — тысяча разваг.
Нясу, як сцяг, высокае імкненне,
Нясу, як лозунг, сонца у вачах.
І што ні дзень — чакаюць
перамогі,
І я вышэй... А я усё вышэй!..
Вядуць прыступкі — цяжкія
дарогі —
Да сонца і да мудрасці бліжэй.

* * *

О Беларусь! Старонка дарагая,
Мне без цябе — як дрэву без вады...
Хоць непрыкметнай птушкай твайго гаю,—
Абы з табой... Навекі, назаўжды!

## *Зайздросьце*

Зайздросьце, хлопцы, салігорцам —
Маім сябрам і землякам:
Трымалі йспыты па-геройску
На горды тытул гарняка!

Яны, як выклік сутарэнням,
Ідуць дарогамі вякоў,
Чытаюць хітрыя спляценні
Імі пакораных пластоў.

І што там іншыя прафесіі —
Для іх другіх не існуе.
Свае у шахце ёсць прафесары
І аспіранты ёсць свае.

Так, нездарма іх лічаць моцнымі,
Другія гэтак ці змаглі б —
Гаспадарамі паўнамоцнымі
І пад зямлёй, і на зямлі.

Зайздросьце, хлопцы, салігорцам —
Маім сябрам і землякам!..

* * *

Ну і раніца — ўся з'інелая!
Па калені загрузла ў снег
І застыла снягуркаю белаю
У чароўным і дзіўным сне.

Зор сыпнуў табе ў косы поўнік,
Снежань белы шалік саткаў,
Зухаваты вецер-вандроўнік
Калыханку ўсю ноч спяваў...

Я прыйду к табе, раніца, ціха
У святую тваю чысціню,
Я з табою пабуду крыху,
Табе сэрца сваё адчыню.

Спі ж, снягурка — белая раніца,
У цяпле маладых снягоў...
Мне так хораша, добра марыцца
На руках тваіх дзіўных сноў.

* * *

Пайду я ў сонечнае лета,
Нап'юся хмельнага настою,—
Настою сонца з цёплым ветрам,
З травой духмянай лугавою.

Пайду, паслухаю далёкі
Званок срабрысты жаўруковы,
І шэпт сухі ў зеніце спёкі,
І спеў лагодны раўчуковы.

Убачу вочы ў бліскавіцах,
У залатых іскрынках смеху.
Між верб, расплеценых і ніцых,
Знайду рассыпанае рэха.

...Іду я ў сонечнае лета,—
К стагам пад хусткай снегавою,
К стагам, прапахлым цёплым ветрам,
Расой крамянай лугавою.

# *Іду ў жыццё*

Адным — каб вецер, каб дарогі,
Каб неба шыр над галавой,
І не бяда, што шмат трывогі,
Што вечна ў сэрцы неспакой.

Любую плынь бяруць іх вёслы,—
Плывуць і не клянуць раку...
Люблю людзей з падобным лёсам,
Люблю, хто з сонцам — за руку.

Другім жа трэба ціш, утульнасць,
Надзьмуты ветразь — не для іх;
Жывуць, дрымотаю атулены,
Ў бярлогах модненькіх сваіх.

А я — не так... А мне — каб сонца
Ды песень радасны прыбой!..
Не для мяне затокі сонныя;
Я з вамі, вёсны, вам я свой!

## *Сябру*

Калі сціснецца сэрца ў адчаі
І бяссільна павіснуць рукі,—
Я цябе з надзеяй чакаю,
Мой збавіцель ад зла і мукі.

Ты прыйдзі у прытулак горны
Шчырым сонцам, дабром бязмерным,—
І развеецца смутак чорны,
Зноўку вернуцца моц і вера.

* * *

Уранні, па буйных росах,
Вясёлай, шчаслівай Золушкай
Прабегла дзяўчына босая,
З касою ярчэй ад золата.

Зірнула вачыма дзіўнымі
З блакітам усіх пралесак,
Пабегла пад сонцам здзіўленым
Па росным і звонкім лесе.

Пабегла сонечнай казкай,
Спакой назаўжды панесла...
Прабегла між майскіх красак
Юнацтва шчаслівай песняй.

## *Аб мары*

Мяне нястрымна, звонка кліча
Смугі вячэрняй хараство,
Туды, дзе ліпы зоры лічаць,
Дзе месяц мыецца лістом.

Ў чароўным вальсе сінявою
Маё бяссонне паплыве,
Над шапаткой ў лугах травою,
Што акіянам хтось заве.

Над серабрыстым звонам росаў
І халадком лясных крыніц.
Над гаем беразовым босым
Крылатай птушкай праляціць.

А сцежка росная і гонкая
Да мар далёкіх павядзе,
І дзесь пад поўнач зорка
звонка
Шчаслівым вершам упадзе!

* * *

Я з твайго, каханая, палону
Анікуды сёння не збягу,
І не слухай злых пляткарак звону,—
Чысціню пачуццяў зберагу.

«Зберагу!» О вусны залатыя —
Хмельнасць найхмяльнейшая з усіх!
Мы з табой — не самыя святыя,
Але ўсё ж шчаслівей за святых.

Ноч паслала нам даўно пасцелі,
І забыта даўняе: «Бывай!»
Месяц выплыў, быццам на вяселлі
Цёплы і пахучы каравай.

## *Споведзь*

О добрыя, ціхія хаты,—
Калыскі вясковых хлапцоў,—
Люлялі вы колісь багата
І казак, і цёплых сноў.

Люлялі... Ды мы уцякалі
Насустрач нязведаным дням. .
А вы ўсё чакалі, чакалі...
Чакалі і верылі нам.

І мы, наглытаўшыся пылу
Далёкіх і цяжкіх дарог,
Вярталіся... Большае сілы,
Як ступіш на родны парог.

Ды зноў, адпачыўшы, казалі:
«Бывай, родны кут і гай!»
А вы ўсё чакалі, чакалі,
Каб зноўку пачуць: «Бывай!»

## *Вясна*

Сонца сёння такое звонкае,—
Кожны кволы прамень пяе!
Дай руку мне, сцяжынка гонкая,
К сінім далям імчы мяне.

Заспявай у вушах, вятрыска!
Сцежка, гнуткай стралой звіні!
Гэй, вясёлка, у твар мне пырсні
І усмешкай хутчэй крані!..

А вясна мне смяецца весела,
Лашчаць рукі красунь бяроз.
Сонца промні з блакіту звесіла,
Плешча зарыва рыжых кос.

Ахінай жа, гарачае марыва,
Звонам красак страчай, страчай!..
Будзь са мною шчаслівымі марамі,
Мой гарэзны зялёны май!

* * *

Між ціхіх ліп, між звонкіх сосен
Ў зялёны май пайшлі ўдваіх.
Ім травы ногі шчодра росяць,
І ноч для іх, для іх адных.

Не трэба сцежак пратаптаных —
Вясна гасцінцам пралягла.
Прыкрыла ночка закаханых
Пяшчотай сіняга крыла.

Вянок вянчальны — неба ў зорах,
А маладзік — вясёлы сват.
Ім падарункі — кветак мора,
І пошум дрэў, як спеў дзяўчат.

Рука ў руцэ... І сэрца к сэрцу...
І шчасце вусны п'юць і п'юць...
Вясельным май у нас завецца,
Шчаслівым май у нас завуць!

## *Прыроды закон непахісны...*

У гады Айчыннай вайны невялікая палеская вёска Хадыкі была спалена фашыстамі. У агні загінула 75 жыхароў, палову якіх складалі дзеці.

Паляну, дзе была раней вёска, акружаюць пасівелыя дрэвы...

А дрэвы, як людзі, сівеюць.
«Старэюць»,— гаворым мы з жалем
І ціха маўчым: «Старэюць...
Да скону іх час набліжае».

Прыроды закон непахісны...
Але па якому закону
На вас, мае дрэвы, павісла
Сівая прыкмета скону?

Вы ж сонца яшчэ не трымалі
Ў зялёных сваіх далонях,
Так мала вёснаў страчалі...
Чаму ж зелянець даволі?

Прыроды закон непахісны...
Ужо й маладыя кроны
Ў абдымкі сівыя зацісну ў.
Чаму ж? Па якому закону?

## *Ідуць калоны*

Мая Радзіма! Сёння не пазнаць
Тваіх прасторных вуліц і палацаў.
Ідуць калоны, песнямі звіняць
Аб радасці, аб шчасці і аб працы.

Ідуць калоны... Сонца у руках —
Сцягоў гарачых сонца трапяткое,
Яно заўсёды будзе у вяках
Нязгаснае, і вечнае, й жывое.

Ідуць калоны... Вуліцы — бы пульс,
Гарачы пульс Кастрычніцкага свята!
Яны ідуць, бо верны гэты курс,
Што Ленінскаю партыяй узяты!

## *Хай мяцеляцца мяцелі*

Замяцеліў снежань сцежкі,
Закружыў,
Толькі ты, мая усмешка,
Не тужы.

Ўсе халодныя сумёты
Перайду,
Да цябе, мая пяшчота,
Я дайду.

Хай мяцеляцца мяцелі
І гудуць,
Пра шчаслівыя вяселлі
Хай пяюць.

## *Наказ*

Не патрывожце неасцярожнасці
                    рухам
Дзіцяці шчаслівыя рукі,
Якія абдымаюць сноў
              васільковае воблака,—
Гэта лепшыя сны
            чалавецтва...

## *Схіліся, шар зямны...*

О, рукі шчырыя!.. Вы — промні
Людской гарачай дабраты.
О, рукі, пахнучыя поўняй —
Пшанічным хлебам залатым!

О, рукі з сонцам пераспелым —
Нязгасным сонцам мазалёў,
Пра вас паэты многа пелі,
А вы вышэй усякіх слоў!

О, рукі, рукі!.. Аж да скону
На вас маліцца я гатоў...
Схіліся ж, шар зямны, ў паклоне
Рукам тваіх дачок, сыноў!

## *Птушкі*

А ім ляцець праз далі і трывогі
(Узмахі крыл — адвечная туга).
Павіс, як сум, іх вырай над дарогай,
Якую ўкрые снежная смуга.

І ўсё ж ніхто не стоіцца ў сумненні —
Ці вернуцца яны вясною зноў,
Бо ёсць гняздоўяў родных прыцягненне —
Ёсць ціхі шум пакінутых лясоў.

## *Птушкі*

*(другі варыянт)*

Адным ляцець праз жорсткасць і трывогі
(Узмахі крыл — адвечная туга),
Другім жа тут — да смерці, да знямогі
Жыццё нясці праз снежны ураган.

А ўсё ж ніхто не стоіцца ў сумненні
І не задасць пытанняў вось такіх:
Каго гняздоўяў родных прыцягненне
Мацней трымае — першых ці другіх?..

## *Адкрыццё*

Праз сто дарог,
　　　　　　　　праз тысячу сумненняў
Дайду да мэты: яснасці зара
Асвеціць мне адзінае рашэнне —
І скорыцца няпэўнасці гара.

І ўжо сляды чытаюцца другімі,
Яны — як рэзалюцыі цяпер.
А сто дарог — як ноты таго гімна,
Якім я слаўлю, адкрыццё, цябе.

* * *

Жыву надзеяй на спатканне,
Таму і веру новым дням.
Хоць мо й дарэмнае чаканне,
Мне ж, утрапёнаму, няўцям.

І я нясу сваю надзею
Праз тлум сумненняў, засцярог,
І, быццам волю князь удзельны,
Я чысціню табе збярог.

## *Пошук*

Я то спрашчаю, то ўскладняю,
А ўсё не тое, ўсё не так.
І пошук зноў мяне вяртае
На той наезджаны бальшак.

Вяртанне гэтае ў пачатак
Пачаткам новым стане зноў,
І стану даўнія пячаткі
Зрываць з правераных асноў.

Прайду праз мноства паўтарэнняў,
Спазнаю сутнасць многіх страт,
Каб потым выспеліць рашэнне
І — не вярнуцца ўжо назад.



*Наталля Несцераўна,*
*маці паэта*



*Сустрэча з Янкам Брылём*
*на творчым семінары ў Каралішчавічах*
*(другі злева — Леанід Якубовіч)*

## *Падтэкст не шукайце*

Падтэкст не шукайце, дарэмная праца,
Тут тэкст і падтэкст, як адзіны граніт:
Пакуль у грудзях будзе стук адчувацца,
Я — сын нашай партыі, я — барацьбіт!

Ніколі не буду палоннікам цемры,
Бо зорка Крамля — мой адзіны маяк.
Калі ж мо апчэрыцца дзікая хеўра,
То стрэне іх зброя таксама й мая.

Падтэкст не шукайце, дарэмная праца,
Бо клятва мая шчэ мацней за граніт:
Пакуль у грудзях будзе стук адчувацца,
Я — сын нашай партыі, я — барацьбіт!

3 Зак. 1994

* * *

Час вылечвае сэрца раны,
З годам кожным слабее боль,
Нават сны ў сівых ветэранаў
Ўсё аб чымсьці спакойным больш.

Гоіць час чалавечыя раны,
Шчасце сніцца ў спакойных снах...
Толькі ў маці, ссівелай рана,
Боль заўсёды ў сініх вачах.

...Адпраўляла з надзеяй, верыла:
Два сыны да яе крыла
З перамогай жывымі вернуцца...
Перамога ж адна прыйшла.

Ночы цяжкія... Вочы матчыны
Часта ночы зусім не спяць.
Мо бяссоннем? Ды не — гарачым
Болем маці яны гараць!

* * *

*Кастусю Каліноўскаму*

Вяртаюся я ў даўнасць. Прыходжу, як на суд.
Нясу свае учынкі, і клопаты нясу.
Трывожныя эпохі... Гарачыя крыжы...
Ці горача я верыў і ці трывожна жыў?
Распятыя за сёння, узнятыя, як сцяг,—
Вы верылі да скону у сонечны працяг.
Ішлі гады, міналі, ды велічны парыў
Няслі у сэрцах мужных другія бунтары.
Агнём палае неба, і водбліск — у вачах.
Магчыма, дзень пачаўся;
магчыма, дзень зачах?
Заве у даль дарога, да строгай вышыні,
Пачатак ёй пакладзен ва учарашнім дні.
...Вяртаюся я ў даўнасць.
Прыходжу, як на суд.
Нясу сваю трывогу, сумненні ўсе нясу.

## *Успамін*

Хлеб у хаце!..
Пахучым сонцам
Цёплы бохан з покуці свеціць...
Мы сягоння рады бясконца,
Мы сягоння — райскія дзеці.

Ды у маці маршчын не меншае,
А у маці скрозь смех — слязінкі,
Бо апошняя радасць першая,
Бо няма ні адной мучынкі.

Толькі добры жнівень замесіць
З ураджаю новага радасць,
А да жніўня — нягод завеса,
А да жніўня шчэ хмары з градам.

Але сёння свята у хаце,
Мы шчаслівыя з братам меншым:
Елі хлеб, што спякла нам маці!
Елі хлеб, на слязах замешаны...

* * *

Глаза — зеркало души.

*Л. Талстой*

«...Ты толькі ў вочы зазірні!»
А ў іх адчай дрыжыць
Слязьмі на вейках чысціні,
А ў іх адчай крычыць!

О лекі! Лекаў не знайсці,
Тут неруш — свет душы,
І ў гэты неруш не прайсці
Па сцежках слоў чужых...

«...Ты толькі ў вочы зазірні!»

* * *

Мне лес здаецца ветэранам,
Хоць кожнай мокрае начы
Ён не кляне, як людзі, раны,
А цяжка, стоена маўчыць.

Ды ўсё ж бывае стогн прарвецца,—
Не утрымаюць гушчары,—
І лес збянтэжана прыгнецца,
І уздыхне мой лес стары.

А раніцай на лісцях росы —
Зусім як слёзы у людзей,
І будзе лес глядзецца ў просінь
І жыць у марыве надзей.

І будзе голле гладзіць раны
Вайной знявечаных ствалоў...
Мне лес здаецца ветэранам,
Хоць і не мае медалёў.

## *Снег успамінаў*

Гэтак хораша рэдка бывае...
Не пакінь жа мяне, не пакінь!
Хай мяцель за сцяной не сціхае,
Ды са мною вачэй тваіх сінь.

Не пакінь! Будзе вечнае лета
Нашых губ, нашых душ, нашых рук...
Прасціраюцца ж рукі над светам
У парыве адчайных мук.

Сон прапаў... І вецер шалее,
Сыпле снег на маё цяпло.
Снег халодны... Мяцеліца вее.
...Толькі снег над далёкім сном.

* * *

...А сонца зноў зайграе у блакіце,
І здасца, што ніколі не было
Той цяжкай і грымотнай навальніцы
З маланкамі, што пляжылі сяло.

Ды ўсё ж наткнецца погляд нечакана
На чорны чуб — ахвяру той начы,
І сэрца зноў да болю прыкавана —
Сціскаюць успамінаў абручы.

## *Мацярынскі наказ*

Якою далёкай ні будзе дарога,
Якім бы шырокім ні здаўся прасцяг,—
Вяртайся сюды, да святога парога:
Адсюль твой пачатак і тут твой працяг.

* * *

Кроў, кажуць, не дыміцца,
Не ўспыхвае агнём...
З свянцонае крыніцы
Ваду не п'ём.

Плады апалых ісцін —
Мізэрны плён.
Яны цяпер — не выйсце,
Яны — палон.

Няма граніц адкрыццям
Крынічных жыл.
Нам нельга паўтарыцца
У тых, хто жыў.

Шукаць сваю крыніцу,
Пакуль жывём!
...Кроў наша задыміцца
І выбухне агнём.

* * *

А я ўсё чакаў, калі прыйдзе яна —
Усмешкі тваёй вясна.
У вочы твае ўсё глядзеў я
І цешыў сябе надзеяй,
Што холаду сінь густая
Нарэшце растане, растане!
Я мудра чакаў, што прыйдзе яна —
Усмешкі тваёй вясна.

* * *

Калі б не кос тваіх густая прахалода,
Ці не згарэў бы ў поўдзеньскую спёку?
Калі б не губ тваіх гарачых асалода,
Ці вытрымаў бы сіверу апёкі?

## *Сонейка*

Поіць сонца ласкаю
Лісцікі бярозак,
Ціхай ходзіць казкаю
Стужкамі дарожак,

Запыліцца, пакуль ходзіць,—
Акунецца ў ручаі,
Патанцуе і паводзіць
Карагоды у гаі.

Разам з радугай нап'ецца
З рэчкі чыстае вады,
Адпачыць затым імкнецца
Пад дубочак малады.

А пасля ізноў гуляе
Па палях і па лугах,
Ў пары з ветрыкам шугае
Ў правадах і на платах.

* * *

*В. М.*

Каб сустрэцца,
Каб хоць на імгненне
сустрэцца
Нашым вуснам і нашым
сэрцам,—
О, як многа нам трэба
прамерачь
Кіламетраў крокамі вернасці.
Каб сустрэцца,
Каб сустрэцца на цэлую
вечнасць,
Сплесці рукі ў святы вянок,
Нам ісці трэба ўсё праз
вернасць,
Ўсё праз вернасць. За крокам
крок.
Каб сустрэцца...

## *Каханне*

Кос тваіх вясновыя струменні,
Рук тваіх ласкавае цяпло...
Да мяне ішло ўсяго імгненне,
Да мяне стагоддзямі плыло
Пачуцця святога азарэнне,
Чалавецтва светлае вясло.

Грані часу ў сонцы раставалі,
Раставала сонца у вачах.
Шчасце мы пілі — не выпівалі,
Захліснуўшы рукі на плячах.

І апошнім сполахам сумнення
Адплыло і згасла небыццё,
З пачуцця святога азарэннем
Пазнавалі сутнасць і жыццё.

Рук тваіх ласкавае цяпло,
Чалавецтва светлае вясло...

## *Голас зямлёй ляціць*

Голас зямлёй ляціць,
Голас хлапца з В'етнама:
«Мама, я хочу жыць!
Мама, баюся! Мама!»

...Неба трывогай грукоча.
Цёмна наўкола. Хмары.
Неба маланкі строчаць,
Ломяць, калечаць мары.

Дзесьці туды, у страх,
Надзея пайшла уранні.
Тварык дзіцячы ў слязах,
Сэрца знямела ў чаканні.

Хлопчыку хочацца чуць
Песні пары дзіцячай.
Песню разрывы рвуць.
Хлопчык надрыўна плача.

...Голас зямлёй ляціць,
Думкі людзей трывожыць:
«Мама, я хочу жыць!
Мама, я хочу жыць!»

* * *

Бываюць сустрэчы... Такія сустрэчы!
Вясновыя ветры ўстрывожаць снягі,
Наладзіць сустрэчу запознены вечар,
Запознены вечар — востраў тугі.

Бываюць сустрэчы! Такія сустрэчы...
Гарачыя рукі... Чаканы парыў.
І зорысты вечар, і вочы, як вечнасць,
Шчаслівая вечнасць шчаслівай пары.

Зноў будуць сустрэчы, будуць сустрэчы!
Растануць, сплывуць успамінам снягі!
Нязведаны вечар, запознены вечар,
Вечар кахання — востраў тугі.

4 Зак. 1994

## *Росы выпалі...*

Твае косы ўмыты росамі,
І прапахлі вусны раніцай...
Ходзім, ходзім, ходзім босыя —
Сцежкі нашы не канчаюцца.

Ах, навошта росы выпалі,
І навошта студзяць ногі,
Калі вусны ўсё не выпілі,
Калі сцежак многа-многа!

* * *

Бліскавіцы грознай навальніцы
Аніштo прад поглядам адным.
Вы скажыце, як мне бараніцца
І дзе схоўня ў лузе маладым.

Травы захлынаюцца ад росаў —
Помачы няма адкуль чакаць,
Ці то дождж, ці дзеўчыныя косы,—
Сцежкі пад нагамі не відаць...

* * *

«Табе — мой верш прачулы,
Табе — салодкасць сноў!» —
Шаптаў... А неба чула
Пяшчоту тую слоў!

Шаптаў... І шчасце чулі
Мільёны зыркіх зор.
Шаптаў... І слухаў чуйна
Стары, ссівелы бор!

Шаптаў, шаптаў прызнанне,
І чула ўся зямля...
І толькі ты, каханая,
Не ўчула і пайшла...

* * *

> «Как ваше имя
> Как ваше отчество
> Я — одиночество!»
>
> *М. Луконін*

...І мне прысніцца твой далёкі горад,
Захутаны у коўдру тумаНоў...
Ды раніца — як востры нож да горла,
Як плата за адданасць і любоў.

І будзе роспач біцца у знямозе
Аб адзіноцтва злыя берагі.
І новы дзень пакіне на дарозе
Сляды майго адчаю і тугі.

Жыву надзеяй, што прыносяць сны мне,
Якім да рання радавацць і грэць...
Падстрэленая птушка гэтак стыне,
А крылы ўсё трапечуць: узляцець!

* * *

Хоць бывае і цяжка мужчынам —
Горкіх слёз не убачыш ніколі.
Хіба толькі пралягуць маршчыны,
Як барозны ад плуга на полі.

Толькі поле шуміць ураджаем,
А маршчыны глыбеюць з гадамі.
І на твары, як след адчаю
І як боль,— маршчыны вузламі.

Не, не плачуць наўзрыд мужчыны,
Толькі зубы сціскаюць ад болю,
Ды кладуцца барозны-маршчыны,
Заараць іх нельга ніколі.

* * *

Нічога няма цяплей
За рукі матуліны,
Нічога няма ласкавей
За рукі матуліны.

Калыска найлепшых сноў —
Рукі матуліны.
Вярнейшая ў свеце любоў
Рук матуліных.
...О рукі, рукі матуліны!

## *Сёння лета*

Сёння нават сонца не патрэбна,—
Столькі сонца ў радасных вачах.
Жаўрукоў не трэба: сёння срэбра —
У людскіх шчаслівых галасах.

Не паверу я, што сёння восень,
Сёння лета, лета на зямлі.
І не ў лістапад, а ў жніўня просінь
Нашы сцягі поруч паплылі.

* * *

...І прыйдзе ноч вялікай шчырасці,
Узыдзе светлы поўнік шчасця.
І будуць сэрцы каравеламі
У акіяне пачуцця.

І панясуць пяшчоты ветразі
У сіні край вялікай радасці.
І здасца казкай ноч кароткая
І нерэальным — свет...

## *Забудзем крыўды...*

Давай жа зноў, як некалі,
За рукі — і пад дождж,
Забудзем крыўды нейкія.
Пабеглі басанож?

Хоць бальшака няма таго,
А толькі сцежкі ніць,
Бяжым... Дажджа вусатага
Прымусім адступіць.

Хай тыя, што схаваліся,
Зайздросцяць моўчкі нам,
Ну што, ці ты збаялася?
Не скорымся вятрам!

А ты глядзіш засмучана
І кажаш ціха так:
— Дарэмна, я заручана,
А сцежка — не бальшак!

[1]* * *

Аднойчы да чалавека прыйшло свята...
Неспадзяванае, як першы снег,
Шчаслівае, як адчуванне палёту,
Урачыстае, як узыход сонца,
Прыйшло да чалавека свята.

І вочы яго засвяціліся,
Як свецяцца яны ў сляпых,
Якія пачынаюць бачыць;
І спыніўся ён засяроджана,
Як спыняюцца глухія,
Адкрываючы першы гук.

Аднойчы да чалавека прыйшло свята...
Аднойчы пачуў ён
Імклівую мелодыю крыл,
Светлыя гукі сонечных промняў,
Велічныя акорды лесу,—
Аднойчы спасціг чалавек музыку...

---

[1] Гэты верш знайшоўся ў пісьмах паэта.

## *Вера*

Будзе вечнасць глядзецца ў вочы
Задумёнасцю ціхай поўні,
Будуць вусны вернасць прарочыць,
Будуць рукі — пяшчоты промні.

## *Жаданне*

Я жыццё сваё хацеў бы бачыць
Гэткім простым, як матулі рукі,
Рукі, што спазналі ўсе нястачы,
Ўсе зямныя радасці і мукі.

Не жадаю, каб было інačай,
Бо тады гады — пустыя гукі...
Я жыццё сваё хацеў бы бачыць
Неспакойным, як матулі рукі.

* * *

Не ад нявер'я, не! — Ад веры
Стартуюць новыя шляхі.
Нявер'е зроду не паверне
У шум нязведаных стыхій.

Нам камень ісціны гарачы
Далоні колка апячэ.
Пагляд засвеціцца іначай,
Пагляд засвеціцца ярчэй.

Гараць кастры першапраходцаў
Агнём прыветных маякоў.
Ды шлях пазначан не бясконца
Ў глыбокай засені вякоў.

Нявер'е спыніць на спачынак,
Няверны вочы адвядзе.
З даверам вернаму Айчына
На плечы рукі пакладзе.

Адступяць змрочныя бар'еры
І — расхінецца край глухі...
Не ад нявер'я, не! — Ад веры
Стартуюць новыя шляхі.

## *Чалавеку*

Калі песня не грэе
У мароз і завею,—
Дык нашто твая песня!
Калі рукі ніколі
Не зналі мазоляў,—
Для чаго твае рукі!
Калі сэрца не плача,
Як бязногага ўбачыш,—
То не сэрца, а камень!
Калі вечна на ўзмежку,
Без агню і ўсмешкі,—
Дык нашто і жыццё!

* * *

Жыццё — нібы цягнік...
Гады мае — вагоны...
Ўсё болей іх, цягнік усё расце.
Ды сэрца — паравоз іх неўгамонны,
Разгон бярэ, пастуквае часцей.

І радасна, і крыху страшнавата
Імчаць і захлынацца ад вятроў,
Але імчу... На ўздым бяру заўзята,—
Упартасці пазычыць нат гадоў.

Жыццём маім нагружаны вагоны,
Адказна, бо жыццём жа, як-ніяк...
Так хочацца, прымчаўшыся да скону,
Убачыць, што цягнік — не паражняк.

* *

Цякла рака — дабра рука,
Жыццё нясла з сабой рака.

* *

Маё жыццё — ўсяго адно імгненне,
Адно імгненне ў вечнасці жыцця.

* *

Адплываю ў даўнасць, нібы ў мора,
Маё сэрца — судна з успамінамі.

* *

Ад дарог і бясконцых спраў
Калі-небудзь усё ж стамлюся,
У няёмкай цішы стаюся
Чалавекам вялікіх праў.

5 Зак. 1994

## *Усяму свая пара*

Жыта заўсёды жнуць тады, калі яно добра выспее, калі зярняты, здаецца, звоняць пад жнівеньскім ветрыкам. Так павінна быць і ў пісьменнікаў: брацца за пяро толькі тады, калі адчуваеш, што ўжо ўсё выспела ў душы для новага твора — так і звоніць добрымі вобразамі, добрымі думкамі.

## *Шукаць глыбіню*

Чалавек бярэцца за пяро... Як правіла, гэта здараецца тады, калі ён хоча сказаць людзям нешта такое, аб чым яны не ведаюць ці не здагадваюцца, хоча сказаць ім нешта сваё, хоча адкрыць ім заслону, якая хавае таямнічае. Чалавек піша вершы, бо толькі яны могуць перадаць яго настрой, яго думкі надзвычай вобразна і светла. Але не ўсім удаецца пазбегнуць пераказу даўно вядомых ісцін, не ўсім удаецца заглянуць, як кажуць, у глыбіню. А паэзія — гэта тая ж рака, у якой уся свежасць, уся чысціня яе — у глыбіні.

*Радзіма над табой—*
*Балючаю бярозай*



НІЛ ГІЛЕВІЧ

## *Неадкрытыя зоркі паэта*

*Памяці Леаніда Якубовіча*

Ён загінуў трагічна.
З ім разам загінулі мары і думы,
Якія ніколі не зробяцца песнямі,—
Нерасцвілыя кветкі,
Якія ніколі старой адзінокай матулі
Не будуць паднесены;
Неадкрытыя зоркі,
Якімі ніколі пад полагам неба
Каханая не залюбуецца;
Каласы неналітыя,
Што ніколі не стануць галоднаму хлебам...
Нішто ўжо не збудзецца!
Недарэчная, страшная смерць.
Ні змірыцца, ні зразумець.
І няма да каго
Закрычаць, запытацца: за што?
Ну, за што —
Калі гэтак прыгожа
Ён марыў пра шчасце на свеце?..
Вось пайшоў ён ад нас —
І яго каласоў
Не даспеліць ніхто.
Яго зорак ніхто не адкрые.
Яго кветак ніхто не расквеціць.

ЯЎГЕНІЯ ЯНІШЧЫЦ

## *Салаўі*

*Памяці Лёні Якубовіча*

Не ведала, не ведала, калі...
А думала
Зялёным тым прадвеснем:
Калі мае замоўкнуць салаўі,
То за тваімі —
Столькі многа песень!
Але што можа стацца на зямлі
Такою вось
Высокаю пароюі:
Спяваюць,
Не змаўкаюць салаўі
Над памяццю,
Над песняю тваёю.

## *На магілу Леаніда Якубовіча*

Зноў ты побач...
«Дзень добры, Ніна!
Нешта ты, сяброўка, прымоўкла...
Як там маецца вёска Нівы?
Што пяе канал тваім вокнам?
Так даўно не пісаў — даруй мне...
Проста час нейкі быў няпэўны.
Несці радасць люблю, як дарунак,—
А з нягоды — нягода, пэўна ж?
А было не зусім вясёла:
То адно не ў лад, то другое.
Людзі, ведаю, не анёлы,—
Толькі гэта сэрца не гоіць.
Можа, трэба было б іначай?
Можа, трэба не так хваравіта?
Ды, відаць, мне ўжо лёсам прызначана
Подласць біць і быць подласцю бітым.
Я, здаецца, завёў пра сумнае...
Чапялою мяне, чапялою!
...Знаеш, Нін, толькі хмара насунецца,
Закружàцца сняжынкі роем —
І ўспамінамі зноў прыкованы,
Як дзікун да агню святога,
Да сустрэчы той невыпадковае,
Дзе звяло нас СП ці богам!
Што чуваць у сяброў нашых, Ніна?

Мо пашчасціць — летам збярэмся...
Нізка кланяюсь вёсцы Нівы
І тваёй любімай бярэзінцы».

...За акном бяззорна і нема,
Ноч — як чорная штольня шахты,
Дзе разбілася сіняе неба
У тваю апошнюю вахту.

Вёска Нівы спраўляе вяселлі,
Вёска Нівы спраўляе радзіны.
Што ніколі яе аселіцы
Больш не стрэць цябе —
страшна, дзіка...

Перадушаны крык маўчаннем
У душы, як сізіфаў камень.
Ў кожнай пошце няўцямна вачамі
Ад цябе ліста ўсё шукаю...

ЮРКА ГОЛУБ

## *Памяці Леаніда Якубовіча*

Хацелася завеям
Гуляць за медны грош.
Жылося нам не горш.
Каб сумна, то не вельмі.
І снежнаю дзяржавай
Вазілі пошту днём
У сумках з моцным дном
Па вёсках і заставах.
І коні, як вядома,
Спяшаліся на шлях,
Каб змораным пасля
Ды завідна дадому.
Зіма спрыяла душам
І жыту на палях.
Задумы на пасля
Хавала пад падушку.
І хай мяне бог крые,
Што маю на руках
Не права наракаць,
А твой дазвол на крылы.
Адкладваецца ў розум
Зіма і лістабой.
Радзіма над табой —
Балючаю бярозай.

ВІКТАР ЯРАЦ

## *Здабытчык солі*

*Памяці паэта і шахцёра*
*Леаніда Якубовіча*

Пэўна, адтаго, што ў многіх вершах
аўтараў са славаю і без
салаўі пладзіліся бязгрэшныя
і ружовы бэз у вочы лез,—
ты пайшоў, маўклівы і павольны,
хоць любіў птушыны тарарам,
у глыбіні, дзе замест столі —
солі скамянелая гара.
І калі заканчвалася змена,
клецъ плыла шахцёрская да зор,
стомлена ты вёз наверх, як веру,
свой рабочы верш пра Салігорск.
І не ведаў большае падзякі,
калі хлопцы ў робах гарнякоў
пазнавалі саляныя знакі
у радках нявыдуманых слоў.
У глыбіні, дзе замест столі —
солі нездабытыя пласты,
ты пайшоў паходкаю павольнай —
незахвалены
і малады...

## ВАСІЛЬ ЖУКОВІЧ

* * *

*Памяці*
*Лёні Якубовіча*

Чакалася сонца ў сінечы,
звінела ў росах трава,
і аб задушэўным нечым
жаўрук абяцаў спяваць.

І зноў аддалялася вёска.
Світанне збіралася ледзь,
у белых агнях Салігорска
чакала шахцёрская клець.

А я з паэтычнай арбіты
чакаў, Лёня, вершаў тваіх.
Я ведаў, што іх не рабіў ты —
у сэрцы выношваў іх.

О, як непадкупна і смела
ішоў ты да вышыні!
Яна, вышыня твая светлая,
пачатак вяла з глыбіні.

Няўжо прамаўчала світанне
і травы не стылі ў журбе,
што неба ў цябе не стане,
што ў неба не стане цябе?!

## АНАТОЛЬ КРЫВІЦКІ

* * *

*Памяці Леаніда Якубовіча,*
*маладога паэта і шахцёра*

Чэрвень, чэрвень, травы ў росах золкіх,
А за вёскай чорныя капры.
Адцвілі ці зацвітаюць смолкі,
А ісці не больш вярсты за тры.

Пачакай над полем жаўруковым,
Прыпыні той недарэчны лёс,
Паглядзі — ў блакіце васільковым
Промень ласку першую данёс,

Скарачаецца жыцця адлегласць,—
Хоць дарогі жорсткай не відно.
Беззваротная сцяжынка легла,
А туман — хаўтурным палатном.

Ныюць рукі той глыбіннай соллю,
Ад якой у славе Салігорск.
Паглядзі, над Радкавам таполі
Прама мецяць да нябесных зор.

...Клець ляціць, ды здрыганецца толькі
Пад няўцямнай сілаю капроў.
А ля хаты — водар ліпы волкі
Гаркатою маладых лісткоў.

## МАРЫЯ БАРАВІК

### * * *

*Памяці*
*Леаніда Якубовіча*

На ўзлёце мары,
на пачатку гоняў
Пераблытана бядой
твая пара.
Помнікам табе —
у поля на далоні
З недраў матухны
здабытая гара.
Ціхія і мудрыя
стаім перад гарою
Вечных чалавечых
думак і пакут.
Палявымі росамі
з першаю зарою
Плача па табе
твой родны кут.
Абуджаюць гоні
твае песні, Лёня.
Час няспынны
не накліча забыццё.
І тваё імгненне
зноў, як на далоні,—
З памяці балючай
здабытае жыццё.

# *Змест*

**Якубовіч Л.**

Я 29 Я з вамі, вёсны...: Вершы. [Для ст. школ. узросту / [Маст. Л. Зяневіч].— Мн.: Маст. літ., 1979.— 80 с., 2 л. іл.

Пісаць вершы Леанід Якубовіч пачаў яшчэ школьнікам... Цяпер яму было б трыццаць. Яго жыццё абарвалася на працоўным пасту — у салігорскай шахце.

Засталіся вершы, якія гавораць нам, як пяшчотна Лёня Якубовіч любіў сваю Радзіму, людзей, жыццё.

Я $\frac{70803-124}{М 302(05)-79}$ 165—79 ББК 84 Бел 7

Бел 2

Леонид Евгеньевич Якубович

Я С ВАМИ, ВЕСНЫ...

Стихи

Для старшего школьного возраста
Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар В. А. Жуковіч. Мастацкі рэдактар В. І. Кліменка. Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал. Карэктар Т. М. Сoбалева.

ІБ № 522

Здадзена ў набор 19.02.79. Падп. да друку 09.07.79. АТ 01203. Фармат 75×90$^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 3,12+ +0,16 укл. Ул.-выд. арк. 1,88. Тыраж 6000 экз. Зак. 1994. Цана 20 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.